ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.18 (3138) ● ● ЧАЦВЕР, 21 мая, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Герб і сцяг для Белавежскай пушчы**

Афіцыйныя атрыбуты Нацыянальнага парку зацверджаны Геральдычным саветам Міністэрства юстыцыі Беларусі Стар. 3



**Шляхамі Кабзара**

Адзначана 195-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі Стар. 3



**Сонечных спраў майстар**

Алена Грынь доўжыць сямейныя традыцыі Стар. 4

ПАДЗЕЯ

# Дыялог на мове сяброўства

**Як вядома, і раней прадстаўнікі дыяспары не раз збіраліся на этнічнай Радзіме, каб пазнаёміцца, расказаць пра свае справы і нешта пераняць адзін у аднаго. Сёлетні ж іх дыялог быў адметным. Мы паведамлялі ўжо пра ўдзел беларусаў з Латвіі, Польшчы, Расіі ў міжнароднай выставе "СМІ ў Беларусі". З нагоды выставы ў Нацыянальным прэс-цэнтры прайшоў і круглы стол "Дыялог дыяспар: шматнацыянальная Беларусь — беларускае замежжа".**

На сустрэчу, арганізаваную ў Нацыянальным прэс-цэнтры апаратам Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Міністэрствам інфармацыі і грамадскім таварыствам "Радзіма", упершыню былі запрошаны як госці з беларускага замежжа, так і лідэры нацыянальных супольнасцяў Беларусі, якія ўваходзяць у склад Кансультацыйнага міжэтнічнага савета.

Якія ж яны, "нацыянальныя асаблівасці міжнацыянальных працэсаў"? Як рэалізуюць людзі свой этнічны, нацыянальны патэнцыял у розных краінах?

**Леанід ГУЛЯКА, Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі:**

Пра колькасны склад беларускай дыяспары скажу шчыра: і мне дакладная лічба невядомая. Называюць лічбы ад 1мільёна 200 тысяч да 4 мільёнаў чалавек, і нават больш. Мы карыстаемся дадзенымі, атрыманымі Міністэрствам замежных спраў праз пасольствы. Але гэта неафіцыйная статыстыка. Важна адно: мы зацікаўлены ў тым, каб людзі з беларускімі каранямі адчувалі сябе беларусамі ў любой краіне.

Скажу адразу: жывых грошай, як гаворыцца, беларускай дыяспары мы не даем. Але падтрымліваем самадзейныя мастацкія калектывы: сцэнічныя касцюмы, музычныя інструменты... Можам пасадзейнічаць удзелу ў сумесных культурных акцыях, напрыклад, у фестывалях: іх нямала праходзіць у Беларусі. Сёння такія кантакты важныя.

Нагадаю пра конкурс "Адміністрацыйны рэгіён Беларусі — арганізацыя суайчыннікаў за мяжой". Яго мэта — скарыстаўшы патэнцыял дыяспары, наладзіць дзелавыя кантакты, супрацоўніцтва з беларускімі рэгіёнамі. Магчыма, нехта пакуль не зарыентаваўся ў сітуацыі, некаму інфармацыя не дайшла — яна ёсць на нашым інтэрнэт-сайце belarus21.by. Былі, на жаль, выпадкі, калі рэгіён прапаноўвае "руку дружбы", а суполка не гатова салідна супрацоўнічаць. І наадварот. Аднак за мінулы год гэты рух пашырыўся: мы не хочам яго штучна развіваць, але бізнес-кантакты вельмі патрэбныя. Больш таго: наш апарат патрапіў і ў дзяржаўныя праграмы, дзе побач з Міністэрствам прамысловасці, Міністэрствам замежных спраў і іншымі структурамі нам даручана наладжваць партнёрскія сувязі з замежжам. На гэта выдзяляюцца сродкі, і вам раю паспрабаваць іх "асвоіць" — для ўзаемнай карысці Беларусі і краін, дзе вы цяпер жывяце.

Нам важна ведаць пра ваш вопыт работы, паслухаць прапановы, просьбы, падказкі, крытыку. ➔ Стар. 2


БЕЛТА

Для людзей розных нацыянальнасцяў Беларусь стала родным домам

ВЕСТКІ

## Вяртанне Траецкай гары

**Дзесяць раней безыменных скевраў Мінска набылі назвы**

Шпітальны, Камароўскі, Траецкая гара.... Дзе знаходзяцца гэтыя скверы? Тым, хто ведае сучасны Мінск, няцяжка будзе здагадацца. Першы — на вуліцы Куйбышава, побач з помнікам архітэктуры XX стагоддзя, будынкам Галоўнага ваеннага шпіталя Міністэрства абароны Беларусі. Другі, вядома ж, ля Камароўскага рынка: непадалёк ад гандлёвага цэнтра "Люстэрка" і Дома мэблі. А гістарычную назву "Траецкая гара" атрымаў вялікі сквер пры Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета — у памяць пра даўнейшую Траецкую гару. Менавіта так, дарэчы, называлася і плошча, якая знікла ў 30-я гады, калі на ёй пабудавалі тэатр.

## Цёпла там, дзе любяць дзяцей

**У шэрагу краін сёлета змогуць падмацаваць сваё здароўе юныя грамадзяне з Беларусі**

Нядаўна праект міжурадавага дагавора аб аздараўленні беларускіх дзяцей у Іспаніі ўзгаднілі прадстаўнікі Беларусі і гэтай краіны. У самы бліжэйшы час, як плануецца, Беларусь заключыць пагадненні і з Вялікабрытаніяй і Ліхтэнштэйнам. Пра гэта паведаміў Аляксандр Каляда, дырэктар Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Беларусі. Ён нагадаў, што ў лютым заключаны падобныя пагадненні паміж урадамі Беларусі і Германіі, а таксама Беларусі і Ірландыі. У красавіку адкрыты шлях беларускім дзецям і ў Нідэрланды. Дарэчы, першая група дзяцей з Ельскага раёна Гомельскай вобласці паехала на аздараўленне ў Галандыю якраз 26 красавіка, у дзень Чарнобыльскай катастрофы.

Сёлета ўжо прайшлі аздараўленне ў пяці замежных краінах больш за тысячу беларускіх дзяцей. Гэта стала магчымым дзякуючы праграме гуманітарнага супрацоўніцтва з замежнымі няўрадавымі арганізацыямі за кошт замежнай бязвыплатнай дапамогі. Прычым дакладна вядома, дзе і колькі нашых юных грамадзян адпачывала: у Італіі — 613, у Германіі — 298, у Нідэрландах — 84, у Францыі — 21 і ў Вялікабрытаніі — 20.

ПАМЯЦЬ

# Ад Волгі — да Буга

**У Яраслаўлі рэалізаваны праект, ідэя якога ўзнікла пад уражаннем экскурсіі ў Брэсцкую крэпасць-герой**

Арганізатарамі выставачнага праекта выступілі "Цэнтр беларускай культуры. Музей Максіма Багдановіча", Рэгіянальная грамадская арганізацыя руска-беларускай дружбы "Сяброўства", Клуб ваенна-гістарычнай мініяцюры "Т-34".

Крыху перадгісторыі. Улетку мінулага года актывісты клуба "Т-34" пабывалі ў Брэсцкай крэпасці і былі вельмі ўражаны тым, што ўбачылі ў легендарнай цытадэлі над Бугам. Неўзабаве задумалі, а потым зрабілі і прадставілі на выставе ў сябе дыяраму "Абаронцы Брэсцкай крэпасці". Над стварэннем мініяцюр карпатліва працавалі энтузіясты ва ўзросце ад 8 да 65 гадоў. Партнёрам праекта стаў і мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой". Яго супрацоўнікі падрыхтавалі для выставы відэа- і фотаматэрыялы пра яраслаўцаў, якія ўдзельнічалі ў абароне крэпасці на пачатку вайны.

Выставу ўжо наведалі сотні людзей. Завершыцца ж расійска-беларускі праект 22 чэрвеня акцыяй памяці.



Ветэраны вайны — ганаровыя госці на прэзентацыі выставы

# Дыялог на мове сяброўства


ІВАН ЖДАНОВІЧ

Размова за круглым сталом атрымалася змястоўнай

**Максім ДУБЯНОК, старшыня праўлення Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма":**

Я ўдзячны за арганізацыю такой сустрэчы. У нашых гасцей насычаная праграма, яны шмат кантактуюць і між сабой, і з прадстаўнікамі розных дзяржаўных структур. Дзякуючы гэтаму суайчыннікі за мяжой і грама-дзяне Беларусі больш даведваюцца адзін пра другога, пра тое, што і дзеля чаго яны робяць. Мяркую, менавіта такія зносіны ўмацоўваюць сяброўства, дапамагаюць адладзіць цесныя і плённыя кантакты. Бо звычайна за добрым дыялогам ідуць і добрыя справы. Хачу тут, у сяброўскім коле, сказаць словы вялікай павагі і ўдзячнасці прадстаўнікам беларускай дыяспары, якія нягледзячы на цяжкасці знаходзяць магчымасці, сілы і жаданне працаваць, часцей на энтузіязме, і тым самым пашыраюць прысутнасць беларускай культуры ў свеце. Прыемна, што да гэтай пачэснай справы далучана і наша таварыства, у якога, дарэчы, сёлета юбілей: "Радзіме" споўнілася 45 гадоў. Сёння мы разам. Многія суполкі звяртаюцца ў "Радзіму", калі шукаюць новыя шляхі для рэалізацыі сваіх праектаў, набыцця вопыту работы, партнёраў для супрацоўніцтва.

**Валянціна ПІСКУНОВА, старшыня Саюза беларусаў Латвіі і таварыства "Прамень" (г.Рыга):**

Беларусаў у Латвіі цяпер звыш 80 тысяч. Мы адна з нямногіх дыяспар у Латвіі, якая аб'ядналася. У склад саюза ўваходзіць па рэгіёнах 10 арганізацый. І цяпер адна з галоўных задач — далейшае аб'яднанне, у тым ліку і ўсіх беларусаў замежжа. Калі мы аб'ядналіся, нам стала зручней пашыраць нашу культуру, наладзіць вывучэнне мовы. У нас працуе беларуская школа, з ёй цесныя кантакты. Мы адзіныя і ў патрыятычным пачуцці да Радзімы, маем паразуменне і ў ацэнцы таго, як развіваецца Беларусь. А яшчэ мы дапамагаем умацоўваць і эканамічныя стасункі паміж Беларуссю і Латвіяй. Гэта, дарэчы, адзін з галоўных напрамкаў нашай дзейнасці. Не толькі культурнае, але і гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва прапісана ў статуце таварыства.

Думаю, на беларусаў Латвіі з часам будуць раўняцца і суполкі іншых краін. І гэта не пахвальба. Бо аб'ядноўвацца — цяжкая, але ўдзячная праца, і мы яе робім. Мы падтрымліваем і ідэю стварэння Кансультацыйнага савета з прадстаўнікоў беларускай дыяспары пры апараце Упаўнаважанага: павінен быць у беларускай дзяржаве савет, які б каардынаваў гэту працу. Хачу сказаць, што вельмі чакаем усе Закон аб суайчынніках, і на сустрэчы з дэпутатамі Нацыянальнага сходу пра гэта гаварылі. Нам сказалі, што яго вярнулі на дапрацоўку. Кажуць, у Расіі падобны закон прыняты. Мы за тое, каб прайшоў З'езд беларусаў замежжа пад патранатам дзяржавы. Бо на той, які праводзіць Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", не ўсе трапяць. А шырокае яднанне дыяспары цяпер вельмі патрэбна.

**Л.Гуляка:** Калі МЗС прапануе папрацаваць з праектам закона — мы падключымся. Наконт з'езда скажу: тэма заслугоўвае ўвагі, і з'езд трэба рыхтаваць. Можа, на канец года ці ў пачатку наступнага.

**Таццяна БУЧЭЛЬ, намеснік старшыні культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" (Латвія, г.Даўгаўпілс):**

У Даўгаўпілскім дзяржуніверсітэце мы амаль 15 гадоў выкладаем беларускую мову, і заўсёды яна запатрабаваная. Нават студэнты рускія, якія маюць беларускія карані, нашай культурай, літаратурай цікавяцца. Мы заўсёды, у тым ліку і дзякуючы падтрымцы таварыства "Радзіма", знаходзім магчымасць прывезці іх у Мінск. А пасля таго, як яны пабачаць на свае вочы, як тут людзі жывуць, яны з яшчэ большым даверам ставяцца і да беларусаў, і да Беларусі. Нам гэта вельмі прыемна. Сёлета ў нас такая радасная навіна: адразу тры навуковыя працы пішуцца па творах Уладзіміра Караткевіча: бакалаўрская, магістарская і нават доктарская дысертацыі. Як бачым, ёсць інтарэс да Беларусі. Мне прыемна бачыць тут прафесара Адама Восіпавіча Мальдзіса, які аказвае вялікую падтрымку ў нашых задумах. Вось і гэтай вясной мы прыязджалі разам з дактаранткай, атрымалі ад яго вельмі цікавую інфармацыю, патрэбную для работы, кнігі, навуковыя працы. Так што ёсць і міжстудэнцкае, і міжнавуковае ўзаемадзеянне. Дарэчы, мы свядома акрэслілі такую мэту ў сваёй дзейнасці: пакінуць, як гаворыцца, пасля сябе моладзь. Не ведаю, добра гэта ці дрэнна, але і пра наступнікаў, пераемнікаў, на мой погляд, актывістам дыяспары варта заўсёды думаць.

**Людміла БЯЛЯЎСКАЯ, прадстаўніца Нацыянальна-культурнага цэнтра "Беларусы Сібіры" (Расія, Новасібірск):**

Наш цэнтр узначальвае Ніна Кабанава, і гэта, мусіць, адзіная ўстанова беларускай культуры ў Расіі, якая мае дзяржаўны статус. Мы праводзім вялікую і асветніцкую, і выдавецкую працу, асабліва ўдзячныя за гэта сельскія жыхары. У Сібіры шмат беларусаў, яны патрапілі туды рознымі шляхамі і ў розны час: пры сталыпінскай рэформе, рэпрэсаваныя, маладыя спецыялісты ў пасляваенны час ехалі. Я з ліку перасяленцаў апошняй хвалі, жыву ў Новасібірску больш за 30 гадоў. Паехала як малады спецыяліст і засталася. Працавала ў выдавецтве, цяпер — на тэлебачанні. Мой журналісцкі вопыт дапамог пры стварэнні кнігі "Сібір'ю злучаныя лёсы", якая нядаўна пабачыла свет. Каб выпусціць яе, удзельнічалі мы ў конкурсе і атрымалі грант на праект. Тыраж невялікі: усяго 100 экзэмпляраў. Мяркуем і другі, і трэці выпускі зрабіць, бо матэрыялаў вельмі шмат. Дарэчы, у беларускім парламенце ў нас спыталі: калі ў Сібіры гэтак шмат беларусаў, то чаму там не выкладаюць беларускую мову? Думаю, пытанне заканамернае, але яно не да нас... Мы ж на ўзроўні Цэнтра робім тое, што можам. У Новасібірску выдаецца часопіс "Содружество наций", ёсць фэст "Горад сяброўства" — людзі розных нацый, якіх у рэгіёне каля 120, дэманструюць свае ўменні. Гэта вельмі вясёлае свята, з феерверкамі фарбаў, песень, музыкі, танцаў, рознымі мовамі. І свае стравы кожная дыяспара дае паспрабаваць.

Я шмат пішу пра беларусаў, справы дыяспары ў абласную газету "Советская Сибирь", і да 2 красавіка, Свята яднання народаў Беларусі і Расіі, рыхтавала публікацыю. Між іншым, у рэдакцыі неяк сказалі, што дзякуючы такім артыкулам "мы ўжо вашу Беларусь палюбілі". Некаторыя мае артыкулы змяшчаліся ў газеце "Голас Радзімы", якой я вельмі ўдзячна за падтрымку. Таму хачу прапанаваць, каб і журналісты з Расіі, з іншых краін, якія пішуць пра беларускую дыяспару, таксама мелі магчымасць паўдзельнічаць у конкурсе, лаўрэатаў якога сёння тут так прыгожа ўшанавалі.

**Л.Гуляка:** Згодзен з вамі. Зробім удакладненне ва ўмовах конкурсу. Пішыце, дасылайце свае артыкулы — разгледзім.

**Л.Бяляўская:** Дзякуй. Яшчэ адна праблема. Цяпер ёсць захады на тое, каб аб'яднаць у Новасібірску рускі, беларускі і ўкраінскі культурныя цэнтры. Мы ў сувязі з гэтым хвалюемся, што сродкі пачнуць распыляцца, і "малодшым братам-беларусам" з фінансаў мала што застанецца на нашы праекты. Разумею, што не тут вырашаецца гэтае пытанне, але ўсё ж мы просім апарат Упаўнаважанага давесці нашу пазіцыю да ведама тых чыноўнікаў, якія будуць прымаць рашэнне.

Цяпер — наконт матэрыялаў пра Беларусь. У іх ёсць неабходнасць, будзем рады любой дапамозе. Нам вельмі патрэбна газета "Голас Радзімы", яна трапляе да нас, але нерэгулярна. Я пыталася ў іншых прадстаўнікоў дыяспары — у іх тое ж самае назіраецца. Можа, сістэма дастаўкі патрабуе ўдасканалення?

***Дарэчы.*** *Электронны варыянт газеты "Голас Радзімы", яе архіў ёсць на інтэрнэт сайце www.golas.by, а з гэтага года кожны свежы нумар газеты выстаўляецца там у PDF-фармаце, што дазваляе зручна праглядаць яе старонкі на камп'ютары.*

**Людміла СЯРДЗЮК, каардынатар прэс-службы Нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Томска (Расія, г. Томск):**

Паводле афіцыйных дадзеных, беларусаў у Томску каля трох тысяч. Суполка наша актыўная і творчая, таму за пяць з лішкам гадоў работы да нас многія далучыліся. У Томску надаецца немалая ўвага пытанням міжнацыянальных зносін, бо там, як і ў Беларусі, жывуць прадстаўнікі 120 нацыянальнасцяў. Ужо 14 гадоў у горадзе 1 Мая адзначаецца каларытнае Свята дружбы народаў. З гэтай нагоды праводзіцца ўрачыстае пасяджэнне ў памяшканні тэатра, свята прадаўжаецца і на плошчы ля Канцэртнай залы. Збіраюцца ўсе дыяспары, дэманструюць свае дасягненні ў культуры і ралёствах. Дарэчы, і мы работу ў суполцы пачыналі з пашырэння беларускай культуры. Цяпер займаемся і даследчыцкай дзейнасцю: вывучаем гісторыю гэтак званага перасяленскага руху. Дарэчы, па ініцыятыве беларускай дыяспары ў адным з раёнаў вобласці адкрыты музей Інакенція Смактуноўскага — ён адтуль родам, а родавыя карані ў акцёра беларускія. Мы правялі ўжо шэраг гарадскіх фэстаў беларускай культуры і два міжнародныя. Былі на іх нашы землякі з Новасібірскага рэгіёна, прадстаўнікі творчых арганізацый Мінска, Мазыра, беларускага пасольства ў Расіі. Так што запрашаем у госці на нашы фестывалі, яны набіраюць сілу.

Цяпер мы шмат працуем над тым, каб беларусы Томска, вобласці ведалі адзін аднаго, кантактавалі і не парываліся нашы сувязі з гістарычнай, этнічнай радзімай. Можна вобразна параўнаць кожнае наша мерапрыемства з невялікім духоўным мастом, які злучае Томск з Беларуссю. Думаю, у многім і дзякуючы дзейнасці нашай суполкі ў Томска цяпер вельмі моцныя кантакты з Беларуссю. На нашы мерапрыемствы прыходзяць і прадстаўнікі іншых дыяспар, як на вечарыну, прысвечаную творчасці ансамбля "Песняры". Мяркую, дзякуючы нашым фестывалям ёсць добрыя кантакты ў гарадскіх адміністрацый Мінска і Томска. Хутка плануецца візіт дэлегацыі Томска ў Мінск. І на заканчэнне ў якасці пажадання. Нам хацелася б атрымліваць больш інфармацыі пра Беларусь, яе сучасны дзень, знаёміцца з творамі сучасных паэтаў, мастакоў, кампазітараў.

**Аляксандр КАРАЧУН, дырэктар Цэнтра культуры Беларусі ў Польшчы:**

Мы працуем пад эгідай Міністэрства замежных спраў, а маем кантакты з многімі арганізацыямі. У Польшчы, што важна, жывуць этнічныя беларусы, а не проста дыяспара. Мы падтрымліваем беларускасць, якая склалася гістарычна, што там засталося і што культывуецца такой, напрыклад, арганізацыяй, як Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Я прадстаўляю пасольства Беларусі ў Польшчы, якое, дарэчы, аказала падтрымку дэлегацыі, і беларусы Польшчы паказалі на выставе, як шмат цікавага выдаюць.

Падчас работы выставы ў мяне пыталі: ці ёсць у вас мастацкія калектывы? Няма. І ўсяго ў цэнтры два супрацоўнікі: я і намеснік. Але ў Польшчы 14 моцных беларускіх суполак, з якімі мы цесна ўзаемадзейнічаем, ка-

ардынуем работу і арганізуем яе там, дзе патрэбна дапамога з боку беларускай дзяржавы. Цэнтрам былі выдаткаваны грошы на друк у Польшчы трох кніжак беларускіх паэтаў. Мы рабілі прэзентацыю зборнікаў у цэнтры, выязджалі ў Гайнаўку, Бельск-Падляскі. І з выставамі, і з іншымі праектамі дзейнічаем па ўсёй тэрыторыі Польшчы. У хуткім часе ў будынку цэнтра, які мае плошчу звыш 250 квадратных метраў, рыхтуемся адкрыць бібліятэку.

**Базыль СЕГЕНЬ, прафесар, намеснік старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства (Польшча, г.Беласток):**

Я прадстаўляю самую вялікую беларускую грамадскую арганізацыю ў Польшчы, якая дзейнічае з 1956 года. Мы захоўваем і развіваем беларускую культуру на тэрыторыі Польшчы, асабліва ж ва усходняй Беласточчыне, дзе яна спаконвечная. Разлічваем у асноўным на сродкі, што выдзяляе польская дзяржава, шукаем дапамогі і ў спонсараў, а таксама ад Беларусі. Скажу шчыра і выразна: такую дапамогу з этнічнай Радзімы мы атрымоўваем, за што ёй вельмі ўдзячныя.

Сярод значных мерапрыемстваў культурнага напрамку БГКТ — штогадовы фестываль “Беларуская песня” ў Беластоку. І “Свята беларускай культуры” таксама ладзіцца намі, і фестываль “Беласток — Гродна. Гродна — Беласток”, які папераменна праходзіць у Польшчы і Беларусі. З апошнім фэстам з нядаўняга часу спалучана і навуковая канферэнцыя, скіраваная на пазнанне праблем польска-беларускага памежжа.

Хачу сказаць: наша дзейнасць у Польшчы не была б магчымай у такім аб’ёме і з такім плёнам, каб не дапамога Беларусі. Найперш важная яна цяпер з боку Цэнтра культуры Беларусі. У нас цесныя кантакты з дыпслужбамі Беларусі: Генконсульствам у Беластоку, беларускім пасольствам у Варшаве. Добрыя стасункі з рэгіянальнымі структурамі беларускай дзяржавы, па ўсёй Беларусі нас вітаюць цёпла і гасцінна.

***

Пасля таго, як выступілі прадстаўнікі беларускай дыяспары, пра свае набыткі за круглым сталом расказвалі старшыні розных нацыянальных супольнасцяў Беларусі: армянскай, азербайджанскай, дагестанскай, цыганскай, польскай, украінскай, яўрэйскай. Падкрэслівалася, што ўсе яны маюць магчымасць развіваць сваю культуру, а дзяржаўныя сродкі, якія выдзяляюцца на гэтыя мэты, цяпер размяркоўваюць самі члены Кансультацыйнага міжэтнічнага савета, які працуе пры Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў. Зрэшты, у планах рэдакцыі — бліжэй пазнаёміць нашых чытачоў з гэтымі цікавымі людзьмі, якія маюць свой адметны голас у шматмоўным міжнацыянальным дыялогу на беларускай зямлі.

Падрыхтаваў
Іван Ждановіч

# Герб і сцяг для Белавежскай пушчы

## Афіцыйныя атрыбуты Нацыянальнага парку зацверджаны Геральдычным саветам Міністэрства юстыцыі Беларусі

Вольга Кабяк



Цікавыя сустрэчы ў нетрах Белавежскай пушчы

Аўтарам праекта сімволікі Белавежскай пушчы і яго геральдычнага забеспячэння з’яўляецца ўдзельніца Геральдычнага савета Марына Елінская, мастацкае вырашэнне належыць мастаку Віктару Ляхару. У распрацоўцы канцэпцыі праекта таксама прынялі ўдзел навуковыя супрацоўнікі Нацыянальнага парку.

Афіцыйны сцяг запаведніка ўяўляе з сябе светлае прамавугольнае палотнішча, бакавіны якога апраўленыя палавінкамі ёлкі. У цэнтральнай часткі палотнішча на фоне дуба з багатай кронай трымаюць шчыт (малы герб) два спрадвечныя жыхары пушчы — зубр і алень.

Мастацкае вырашэнне сімволікі Белавежскай пушчы заснавана на гістарычных матэрыялах. Гэта досыць выразна прасочваецца ў малюнках выдадзенай у 1903 годзе кнігі “Белавежская пушча. 1803–1903 гады” аднаго з галоўных летапісцаў Белавежскай пушчы — лоўчага цара Мікалая II і камергера двара Яго Імператарскай Вялікасці Георгія Карцава.

Знак-эмблему і сцяг Нацыянальны парк “Белавежская пушча” атрымаў у пярэдадзень святкавання 600-годдзя ўсталявання ў Белавежскай пушчы запаведнага рэжыму, якое вызначана на цяперашнюю восень. Знакаміты запаведнік ужо атрымаў адпаведнае пасведчанне аб рэгістрацыі геральдычнай сімволікі і з гэтага часу мае намер шырока выкарыстоўваць яе пры афармленні сувенірнай прадукцыі, прысвечанай юбілею Нацыянальнага парку. Дарэчы, сімволіка пушчы ўжо прысутнічае на новай турысцкай карце Белавежскай пушчы.

# Шляхамі Кабзара

## У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшлі ўрачыстасці з нагоды 195-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі

Адам Мальдзіс

Жыццё і творчасць пачынальніка новай украінскай літаратуры звязаны з беларускай рэчаіснасцю. Упершыню нашу зямлю ён пабачыў, калі ў ліку дваровых П. Энгельгарта накіроўваўся з Украіны ў Вільню. Ёсць звесткі, што гэты шлях ён адбыў пешшу: прыгоннік ехаў у павозцы, а можа і ў карэце, чэлядзь жа пакорліва ішла ззаду. Прытым у 15-гадовага Тараса абута была толькі адна нага. І калі другой рабілася холадна, ён на хаду пераабуваў адзіны лапаць. Прынамсі, такім паказаў будучага паэта народны мастак Украіны Зіновій Кецала. На яго афорце хлопец прысеў, здарожаны, пад дрэвам, а вочы яго роспачна і разам з тым з надзеяй, пільна ўглядаюцца ў будучыню…

Творы ўкраінскіх мастакоў, сабраныя ў пакоі-музеі Тараса Шаўцэнкі Львоўскага палаца мастацтваў, шчодра былі прадстаўлены на выставе, якая нядаўна адкрылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Рэй на юбілейнай урачыстасці вялі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Беларусі Ігар Ліхавы і дырэктар Львоўскага палаца мастацтваў, заслужаны работнік культуры Украіны Раман Наканечны. Яны расказалі пра цікавы праект украінскіх мастакоў: кожны год яны бяруць якую-небудзь частку жыццёвых дарог Тараса Шаўчэнкі, увекавечваюць іх у палотнах, графічных лістах і скульптурных выявах. Так была “асвоена” родная для паэта Чаркасчына, Падняпроўе, казахскія стэпы і ўмацаванні, дзе Кабзар адбываў пад прымусам вайсковую службу, сённяшнія Вільнюс і Санкт-Пецярбург.

На чарзе, гаварылі прамоўцы, апошняй засталася Беларусь. Украінскія мастакі збіраюцца прыехаць сюды ў наступным годзе. Таму важна высветліць, дзе пралягалі “Тарасавы шляхі”. З “беларускім трактам”, па якім Шаўчэнка ехаў з Пецярбурга ва Украіну ў 1843 годзе, а потым пад канвоем з Кіева ў Пецярбург у 1847 годзе, — усё ясна. А вось якім шляхам ён ішоў услед за павозкай Энгельгарта? Праз Гомель, Бабруйск і Мінск? Несумненна. А далей як? Адны сцвярджаюць, што кружным шляхам, з выездам па Старавіленскім тракце, другія — што праз Заслаўе і Радашковічы, трэція — што праз Ракаў і Валожын… Наступная праблема: што бачыў, што мог бачыць і чуць прыгонны хлопец? Сваё слова для украінскіх мастакоў павінны тут сказаць беларускія гісторыкі, архівісты, картографы.



Тарас Шаўчэнка. Малюнак С. Дабравольскага. 1949 г.

На юбілейнай урачыстасці многа таксама гаварылася пра беларускіх сяброў Шаўчэнкі: мастака Браніслава Залескага з Рачкавіч, які запрашаў паэта пераехаць у яго маёнтачак на Случчыне, паэта і рэвалюцыянера Эдварда Жалігоўскага з Вілейшчыны, паэта Яна Баршчэўскага з Полаччыны. Апошні мог быць найбольш цікавы для Кабзара як фалькларыст. У сувязі з гэтым згадвалася, што аўтар “Шляхціца Завальні” памёр у 1851 годзе ў Цуднаве ва Украіне, што там, у маёнтку Жавускіх, маглі застацца яго рукапісы, варта паспрабаваць адшукаць магілу Баршчэўскага. Карацей, спраў да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі (2014) засталося нямала.

# Сонечных спраў майстар

## Алена Грынь доўжыць сямейныя традыцыі

Людміла Мінкевіч


ЛЮДМІЛА МІНКЕВІЧ

Майстра Алену Грынь працаваць з саломкай навучыла бабуля

Яшчэ ў невялікай вёсцы Волма Смалявіцкага раёна, дзе праходзіла дзяцінства Алены, яна цікавілася саломапляценнем. З гэтым незвычайным рамяством дзяўчынку пазнаёміла бабуля. "Яна хвалявалася, каб мы, чацвёра ўнукаў, якія часта прыязджалі ў госці, "не скруцілі дзе галовы", — успамінае з усмешкай бабуліны трывогі Алена. — Таму і вучыла нас саломцы, як некалі сваіх дзяцей. Паказвала найпростыя элементы, а мы паўтаралі ўслед, рабілі ўпрыгожанні".

Пазней, калі вучылася ў Мінску, Алена дапамагала маці, настаўніцы хіміі, весці гурток па саломцы, удзельнічала ў шматлікіх выставах. Ды не думала нават, што гэта можа стаць прафесіяй. Пасля школы вучылася ў педагагічным каледжы на факультэце выяўленчага мастацтва, затым скончыла педуніверсітэт па той жа спецыяльнасці. Нейкі час цікавілася габеленам, бацікам, выцінанкай... Аднак, на яе погляд, лепш быць добрым спецыялістам у адной галіне, чым ніякім — у многіх.

Сёння Алена Грынь кіруе гуртком па саломапляценні ў адзінай у Мінску архітэктурна-мастацкай гімназіі. Калегі гавораць пра яе як таленавітага, творчага, цярплівага і ўважлівага да кожнага выхаванца настаўніка. А як яна працуе! З неверагоднай хуткасцю саломіны, бы іскрыстыя промні, пераплятаюцца ў руках майстра дзіўнымі ўзорамі і арнаментамі. "Гэта — як вучыцца пісаць: спачатку закавыкі выводзіш павольна, потым хутчэй, а там, глядзі, і цэлыя старонкі пішуцца — непрыкметна для аўтара",— усміхаецца настаўніца.

Салому, з якой працуюць на занятках, Алена вырошчвае сама, каб мець заўжды пад рукой якасны матэрыял. "Бывае, у час жніва, нарыхтоўкі саломы адлік ідзе на дні. Сёння салома яшчэ добрага адцення, а заўтра ўжо нікуды непрыгодная. Многія майстры, ведаю, адбельваюць салому, але я за тое, каб выкарыстоўваць "жывы" матэрыял",— Алена перакочвае на далоні зеленавата-жоўтыя саломіны з залацістым адлівам.

Алена Міхайлаўна не толькі настаўнік і аўтар некалькіх тысяч прац з саломкі. Яна ўдзельніца многіх гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных выстаў (у Францыі, Маскве, Санкт-Пецярбургу), член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.

Кабінет, дзе яна праводзіць заняткі, падобны інтэр'ерам на казачную саламяную хатку. Шмат рэчаў тут зроблена з саломы: ад падвясных канструкцый і фантастычных выяў людзей, жывёл да незвычайных фіранак на вокнах ды залацістай аправы люстэрка на сцяне… Аднак сёння, расказвае Алена, саламяныя рэчы амаль страцілі практычнае значэнне. Усё радзей майструюцца дыванкі, хлебніцы, палукашкі і бочкі для захоўвання прадуктаў, як гэта было папулярна раней, асабліва ў пасляваенны час. Цяпер саломка цэніцца найперш за прыгажосць.

Да слова, спрадвеку саломка выкарыстоўвалася ў рытуальных мэтах. Многія земляробчыя народы верылі, што ў сцяблінах раслін заключаны дух хлебнага бажаства, поля, сіла яго ўрадлівасці, а значыць, і дабрабыт селяніна. Таму з саломы часта стваралі розныя абрадавыя атрыбуты для каляндарных і сямейных свят. Напрыклад, падвясныя дэкаратыўныя канструкцыі, якія называюць "павукамі", падвешваліся над галовамі маладых у час вяселля. І над калыскай дзіцяці. Вывешваліся яны таксама напярэдадні Каляд у "чырвоным куце" і павінны былі засцерагаць дом і гаспадароў ад усялякіх бед, забіраючы ў сваю павуціну ўсё адмоўнае. Дарэчы, сярод работ Алены таксама ёсць калекцыя падвясных канструкцый: яны спалучаюць як даўнія традыцыі, так і сучасныя распрацоўкі беларускіх і замежных майстроў па саломапляценні, уласныя знаходкі майстра.

ПРА ШТО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ

# Колеры вясны

**Вясна — гэта з'яўленне яркіх фарбаў у шэрабелым наваколлі. Паступова адыйшоў снег, і прырода цешыць нарэшце ўсімі колерамі радугі. А можа, вясёлкі? "Як жа правільна па-беларуску?" — спытаеце.**

Адказ такі. Асаблівасць нашай мовы ў тым, што яна развівалася пад уплывам іншых: і славянскіх, і заходнееўрапейскіх, і ўсходніх. Таму нярэдка для абазначэння аднаго паняцця ў беларускай ужываецца як адметнае, так і агульнае, напрыклад, з рускай мовай слова. Гэта якраз датычыцца назоўнікаў **радуга** і **вясёлка**. Абодва яны прымальныя і ўжывальныя. Проста больш прывычнае ў адносінах да шматкаляровай дугападобнай паласы на небе для нас слова **вясёлка**.

Як сінонімы ў беларускай мове можна ўжываць і прыметнікі **радужны** і **вясёлкавы**. Аднак калі маецца на ўвазе *покрыўная тканка вока*, то яе называюць менавіта *радужнай абалонкай*.

Дарэчы, у беларускай мове багата сродкаў, каб адлюстраваць прыгажосць. Калі гаварыць пра пэўныя колеры, то з іх найменнямі праблем амаль не ўзнікае. А вось што да больш шырокіх паняццяў, то часам бывае блытаніна.

**Цвет, краска, колер, фарба** — усе гэтыя словы ўжываюцца ў беларускай мове. Некаторыя з іх — сугучныя з рускімі **цвет** і **краска** — часам выкарыстоўваюць не да месца. Напрыклад, словам **цвет** — па аналогіі з рускай мовай — называюць *афарбоўку чагосьці*, а **краскай** — *рэчыва, што надае колер*.

Між тым, кожнае з названых слоў у беларускай мове мае свой аб'ём значэння. Так, беларускае **цвет** — гэта, па-першае, кветкі на раслінах. Напрыклад, *ліпавы цвет*. Па-другое, *час цвіцення*. Кажуць: *вішні ў цвеце*. Пераносныя значэнні гэтага назоўніка — *лепшая частка чаго-небудзь*: *цвет моладзі*, а таксама *росквіт сіл, гады маладосці*. Так, пра актыўнага і маладога могуць сказаць: *у цвеце сіл*. У некаторых раёнах нашай краіны **цветам** называюць *кветкі*.


БЕЛТА

А як хараша вясною ў лесе!

**Краска** ў беларусаў — *палявая кветка*. Калі ж маецца на ўвазе афарбоўка нечага, то ў нашай мове для гэтага паняцця ёсць слова **колер**. Напрыклад, *лісты зялёнага колеру*. А вось рэчыва, што надае колер, па-беларуску называецца **фарбай**.

Будзьце ўважлівыя да слова і карыстайцеся моўным багаццем адпаведна з сітуацыяй.

Падрыхтавала
Вераніка Бандаровіч

# На ўлонні прыроды

**Гаспадаром вясковага доміка на некаторы час можна будзе стаць у Полацкім раёне**

Такую паслугу першай на Віцебшчыне вырашыла аказваць служба быту Полацкага раёна. На месцы старой базы адпачынку на беразе возера ёсць "вёска напракат" з 11 домікаў і лазні: там можна будзе адпачыць і з сям'ёй, і з сябрамі. Бытавікі завяршаюць уладкаванне вёскі і рыхтуюцца прыняць першых наведвальнікаў.

Як расказала кіраўнік упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва Віцебскай вобласці Паліна Су-дзілоўская, развіццё паслуг для адпачынку — перспектыўны напрамак работы. Пункты пракату папоўніліся новым турысцкім і спартыўным інвентаром. У Браслаўскім, Пастаўскім, Сенненскім раёнах служба быту арганізавала пракат спартыўных трэнажораў. У планах — стварэнне пункта пракату водных веласіпедаў на рэчцы Віцьба, прычым катамараны ўжо закуплены.

# Рукатворнае багацце

**Выстава слуцкіх паясоў будзе працягвацца**

Як паведаміў дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў, адпаведнае пагадненне падпісана Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі з Міністэрствам культуры Расіі і Дзяржаўным гістарычным музеем (Масква). Як вядома, год таму на працяглае экспанаванне ў Беларусь былі прывезены восем слуцкіх паясоў і два іх фрагменты. Шэдэўры сталі асновай выстаўкі "Слуцкія паясы". Усяго ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве экспануецца больш як 20 слуцкіх паясоў і больш як 40 знаходзіцца ў запасніках. Нацыянальны мастацкі музей Беларусі мае два фрагменты слуцкіх паясоў.

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар: Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E—mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб'ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 611